## „Рыцар архівістыкі": памяці Віталя Скалабана



2011 стаўся годам вялікіх страт для беларускай гуманістыкі. Пайшлі з жыцця маладыя і таленавітыя даследчыкі Віктар Цемушаў і Эдуард Мазко, а таксама такія значныя аўтарытэты сваёй справы, як архівіст Аляксандра Гесь, філосаф і культуролаг Уладзімір Конан, археолаг Юрый Заяц.

Адна з самых адчувальных страт — гісторык, архівіст, літаратар, выдавец Віталь Скалабан, які пакінуў гэты свет 22 жніўня ў Мінску на 65-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы. Пайшоў чалавек-энцыклапедыя, чалавек-эпоха, увасабленне няпростага лёсу дзеячаў апошняй хвалі нацыянальнага адраджэння XX ст.

Віталь Скалабан нарадзіўся ў 1947 г. у вёсцы Шыловічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці, але выгадаваны быў у Ляхавічах, якія лічыў сваёй сапраўднай малой радзімай. Прага да гісторыі праявілася ў яго яшчэ ў школе: па ўспамінах Аляксандры Гесь (сёння таксама нябожчыцы), якая пазней настаўнічала недалёка, урокі гісторыі ў класе, дзе вучыўся Скалабан, ператвараліся ў зацікаўленыя дыялогі паміж настаўнікам і Віталем, а ўсе астатнія вучні заставаліся толькі назіральнікамі. Таму натуральна, што яго шлях ад школы ляжаў на гістарычны факультэт тагачаснага Ленінградскага ўніверсітэта — установы, якая з XIX стагоддзя выправіла ў жыццё не аднаго беларуса. Выхаванцамі гэтай альма-матар былі, напрыклад, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Аляксей Сапуноў, Браніслаў Тарашкевіч, Яўген Хлябцэвіч, Антон і Іван Луцкевічы. Не падмануўся і сам Віталь Уладзіміравіч — універсітэт зрабіў яго сапраўдным даследчыкам беларушчыны. Ужо пад час студэнцтва ён захапіўся тэмай беларускага асяродка ў Пецярбургу-Петраградзе і вытокаў беларускай дзяржаўнасці. У Ленінградзе адбылася яго першая важная даследчыцкая „знаходка" — знаёмства з жывым носьбітам ідэй беларускага самавызначэння, адным з арганізатараў Усебеларускага з'езда 1917 г. Яўсеем Канчарам. Да асэнсавання тэмы дзяржаўнасці Беларусі ў XX ст., як і да асобы Канчара, В. Скалабан звяртаўся ўсё жыццё: збіраў матэрыялы, стварыў фонд Я. Канчара ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, а ў 2010 г. выдрукаваў знойдзеныя архіўныя мемуары дзеяча.

Пасля сканчэння ўніверсітэта ў 1970 г. В. Скалабан вяртаецца ў Беларусь. Праз два гады лёс звязаў яго з выдавецтвам „Беларуская эн-

цыклапедыя”, дзе з 1993 г. ён узначаліў падрыхтоўку першай на постсавецкай прасторы нацыянальнай гістарычнай энцыклапедыі. Пад яго рэдакцыяй выйшлі першыя тамы „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”, сярод якіх найважнейшы — на літару „Б”, дзе ўпершыню былі грунтоўна выкладзены гісторыя беларускага руху і арганізацый, Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускага Народнага фронту і г.д. Калі многім у той перыяд здавалася, што заваёвы беларускай дэмакратыі пачатку 1990-х гг. непарушныя, лозунгам В. Скалабана-рэдактара быў „трэба спяшацца, каб паспець”. Сэнс стаў зразумелы толькі тады, калі з вокладкі трэцяга тома „ЭГБ” была знятая выява „Пагоні”, а да кіраўніцтва краінай і рэдакцыяй прыйшлі агрэсіўныя апалагеты савецкасці. Але В. Скалабан паспеў многае: вярнуць забароненыя і забытыя пласты гісторыі, закласці падмуркі для адраджэння і нараджэння ў межах падрыхтоўкі „ЭГБ” такіх навуковых дысцыплін, як бібліяграфія, біяграфістыка, генеалогія, гістарычная геаграфія і картаграфія, храналогія.

Наступныя перыяды жыцця В. Скалабана былі звязаны з Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы, Навукова-асветніцкім цэнтрам імя Францыска Скарыны, Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь.

Але дзе б ні працаваў В. Скалабан, энцыклапедычны досвед і шырыня зацікаўленасцей ніколі яго не пакідалі. Ён зацята і напружана працаваў у архівах, вёў актыўную публікацыйную дзейнасць, удзельнічаў амаль ва ўсіх найважнейшых навуковых форумах як на Беларусі, так і за межамі — у Расіі, Польшчы, Украіне, Латвіі, Германіі, усталёўваў міжнародныя навуковыя кантакты даследчыкаў, у першую чаргу архівістаў.

Ён быў надзелены безумоўным талентам і неўтаймаваным тэмпераментам даследчыка, той харызмай, якая прыцягвала і захапляла акружэнне. Да В. Скалабана цягнуліся калегі-прафесіяналы і маладыя даследчыкі, з якімі ён шчодра дзяліўся майстэрствам. Яго сябрамі былі не толькі шматлікія калегі-гісторыкі, але і літаратары, журналісты, выдаўцы, бібліяфілы, дзеячы мастацтва, кіна- і тэлерэжысёры, палітыкі. Развітанне з навукоўцам 23 жніўня 2011 г. сабрала ўсю мінскую, і не толькі мінскую, грамадскасць.

Даследчык пераўтварыўся ў грамадскага дзеяча, які адкрываў і мэтанакіравана вяртаў суайчыннікам гістарычную спадчыну і памяць. Сур’ёзны ўнёсак быў зроблены В. Скалабанам у даследаванні беларускай архівістыкі за межамі, неапублікаванай літаратурнай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Алеся Гаруна, у высвятленні лёсу мастацкіх і архіўных рарытэтаў, вывезеных з Беларусі падчас Другой сусветнай вайны. Вынікам гэтай працы сталі сапраўдныя навуковыя сенсацыі: знаходка пратаколаў Усебеларускага з’езда, адкрыццё сапраўднага аўтара паэмы „Тарас на Парнасе”, расследа-

ванне абставін смерці Янкі Купалы, версія знікнення крыжа Еўфрасінні Полацкай і многае іншае.

Дзякуючы намаганням В. Скалабана вернуты з небыцця постаці Напалеона Чарноцкага, Сяргея Скандракова, Фядота Кудрынскага, Яўгена Хлябцэвіча, Фабіяна Шантыра, Фёдара Турука, Усевалада Фальскага, Міхаіла Мялешкі, Аляксандра Вазілы, Усевалада Ігнатоўскага, Міколы Улашчыка. Ён быў пастаянным удзельнікам „Каласавін", Доўнараўскіх чытанняў у Рэчыцы, архіўных чытанняў ў Беларускім архівемузеі літаратуры і мастацтва. Пад яго кіраўніцтвам складзены навуковыя бібліяграфіі М. Улашчыка, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Яўхіма Карскага, інш. Прызнаннем высокага навуковага ўзроўню В. Скалабана стала складанне ім асобных тамоў і агульнае рэдагаванне поўнага збору твораў класіка беларускай літаратуры Я. Купалы.

Для В. Скалабана не існавала вялікай розніцы паміж акадэмічнымі і рэгіянальнымі тэмамі, макра- і мікрагісторыяй. Ён непасрэдна прычыніўся да адраджэння навуковага краязнаўства, фактычна знішчанага ў Беларусі ў 1930-я гг., стаў адным з заснавальнікаў і актыўным аўтарам „Краязнаўчай газеты", выношваў канцэпцыю „Беларускай энцыклапедыі краязнаўства". Яму належыць ідэя стварэння „Народнага архіва" — праекта збору дакументаў, якія паходзяць ад жывых сведкаў гістарычных падзей.

Не проста даследаванне, а „пражыванне" гістарычных рэалій і драм зрабіла з Віталя Скалабана драматурга. Гэтае захапленне пачалося са сцэнарыяў мастацка-дакументальных фільмаў пра Зміцера Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, утварэнне БНР, а закончылася паўнавартаснымі драматургічнымі творамі: „У жніўні 1936", „Людвіка і Фабіян", „Абняць вышыню", пастаўленымі аматарскімі і прафесійнымі калектывамі.

У адной са сваіх публікацый Адам Восіпавіч Мальдзіс назваў В. Скалабана „рыцарам беларускай архівістыкі". У гэтай якасці гісторык выкрышталізаваўся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, дзе ён працаваў з 2004 г. і да апошняга часу загадчыкам аддзела публікацый. Ён быў надзелены рэдкай інтуіцыяй архіўнага шукальніка, здольнасцю ацаніць інфарматыўную каштоўнасць дакумента ў гістарычным кантэксце. Прынцыпам Скалабана-архівіста сталі не толькі сістэмныя пошукі крыніц па той ці іншай тэме, але і бездакорная археаграфічная апрацоўка тэкстаў. Стыль В. Скалабана-аўтара — гэта стыль сталага вучонага, удумлівага і сур'ёзнага аналітыка-даследчыка. Ён просты, лаканічны, нават прагматычны. Ён не гнаўся за кідкай фразай, не намагаўся „ўразіць" чытача хітрасплячэннем думак і эфектнасцю пасажаў. Аднак за знешнімі сціплай формай і лаканізмам пульсуе ўнутранная напружанасць думкі. Такія тэксты лёгка і „незаўважна" чытаюцца і ўспрымаюцца. Аднак за

гэтай „лёгкасцю” — доўгія пошукі самага неабходнага слова, адной, але ўнутрана завершанай фразы, вобраза, якія кладуцца, як цагліна, пад рукой умелага Майстра, каб аздобіць і надаць непаўторнасць усяму тэксту. Гэта тое, што называецца „прыгожым пісьменствам”, тое, што адрозніваe сталага Майстра ад вучня-пачаткоўца.

У няпростых для Беларусі ўмовах сённяшняга часу з верагодных для гісторыка варыянтаў выбару В. Скалабан абраў магчымасць застацца прафесіяналам і выкарыстоўваць для аднаўлення гістарычнай памяці ўсе наяўныя каналы і рэсурсы. Яму ўдалося здзейсніць такія наватарскія і праўдзівыя гісторыка-публіцыстычныя праекты, як „Адкрыты архіў” і „Зваротны адлік” на беларускім тэлебачанні, стварыць „гістарычны серыял” на старонках афіцыёзнай „Савецкай Беларусі”, друкаваць адраджэнскія матэрыялы ў „Беларускай думцы”.

В. Скалабан не здрадзіў прынцыпам, захаваў паслядоўнасць і адданасць Беларушчыне. Галоўнай тэмай яго даследаванняў былі і засталіся пакутлівы лёс Радзімы, яе герояў і антыгерояў у трагічных выкліках XX ст.

У апошняе дзесяцігоддзе жыцця лозунгам В. Скалабана зноў стаў „спяшацца, каб паспець”: ён працаваў напружана, як ніколі. Дзякуючы яго намаганням, падбору супрацоўнікаў колькасна і якасна ўзняўся ўзровень публікацыйнай дзейнасці Нацыянальнага архіва. За перыяд яго кіраўніцтва аддзелам публікацый НАРБ былі падрыхтаваны 70 паўнавартасных выданняў — пэўна, столькі, сколькі за ўсю папярэднюю гісторыю архіва. Толькі за апошнія тры гады было выдадзена 20 зборнікаў, шэраг з якіх стаў вынікам міжнароднага супрацоўніцтва з архівамі Расіі, Аўстрыі і Германіі. Падрыхтоўка выданняў і нават вышукі матэрыялаў вяліся асабіста Віталем Уладзіміравічам. Сярод іх: „Накануне. Западный особый военный округ в 1939-1941 гг.” (2009); „Хатынь. Трагедия и память” (2009); „Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі”. Верасень 1939 г. — 1956 г. Дакументы і матэрыялы ў 2 кнігах” (2009); „Белорусы в советском тылу. 1941 г. — 1944 г.” у 2-х выпусках (2010); „Купала і Колас, вы нас гадавалі. Документы и материалы. Книга первая. 1909-1939 гг.” (2010); „ОУН-УПА в Беларуси. 1939-1953. Документы и материалы” (2011).

Віталь Скалабан паспеў дастаткова для аднаго годнага чалавечага жыцця, але многія планы і задумы засталіся нязздзейсненымі, бо жыццё даследчыка абарвалася на самым высокім узлёце яго дзейнасці.

**Валянціна Лебедзева, Анатоль Вялікі**